# РОЗГАЛАС

## ТРЭЦЯЯ СУСВЕТНАЯ—СА СНІДАМ?

У Мінску праходзіць нарада прадстаўнікоў краін СНД і Балтыі па праблеме распаўсюджання эпідэміі СНІДу на гэтай тэрыторыі. Удзельнікі лічаць, што спыніць навалу можна толькі сумеснымі намаганнямі. Ініцыятарамі сустрэчы сталі Сусветная арганізацыя аховы здароўя і Еўрапейскае рэгіянальнае бюро. Чым выклікана такая ўвага сусветнай грамадскасці да краін былога Саюза ў плане дыягностыкі СНІДу, добра сказаў доктар С. Е. Экейд, прадстаўнік СААЗ:

— Тое, што вядома аб развіцці гэтай хваробы ў іншых краінах свету, дае падставу сцвярджаць: пачатак эпідэміі ў вас — пытанне часу. Недаацэньваць магчымых вынікаў нельга. Іх можна нават супаставіць з вынікамі другой сусветнай вайны. Беларусь страціла тады 25 працэнтаў свайго насельніцтва. Столькі ж краіны могуць страціць ад эпідэміі СНІДу. Зараз вашы краіны яшчэ не ахоплены хваробай, але гэта не сведчыць аб тым, што яны добра абаронены ад яе. Тут хвалюе высокі працэнт заражоных сярод дзяцей. Магчыма, адаб'ецца і нестабільнасць сітуацыі ў Садружнасці, калі людзі пераязджаюць з месца на месца або ўвогуле выязджаюць за межы СНД, — гэта можа выклікаць прыток інфекцыі. Непакоіць інфармацыя з Беларусі аб першых выпадках інфіцыравання сярод наркаманаў. Па вопыту Польшчы мы можам папярэджваць, што гэта першая прыкмета таго выбуху, які тут можа адбыцца. Складанасць становішча ў вас пакуль што недаацэньваецца. Тым не менш ужо зараз павінны быць прыняты нацыянальныя антыснідаўскія праграмы, неабходна забяспечыць перш-наперш работу службы прафілактыкі. СААЗ гатова дапамагчы краінам СНД, падзяліцца вопытам, каб сустрэць хваробу не з голымі рукамі.

## НАЗВА НОВАЯ—ПРАБЛЕМЫ СТАРЫЯ

МІНСК. Замест камісіі гарсавета па таварах і паслугах створана новая пастаянная дэпутацкая камісія па спажывецкаму рынку і паслугах, кіраўніком якой прызначаны Тадэвуш Чылек. У адрозненне ад былой новая камісія не будзе валодаць кіраўнічымі паўнамоцтвамі. Яна толькі кантралюе, рэкамендуе і звяртае ўвагу кампетэнтных органаў. Камісія адразу прыступіла да работы. Яна вырашае вузел праблем, звязаных з Камароўскім рынкам, прапануючы ўзмацніць кантроль над ім і размежаваць прадуктовы і рэчавы гандаль; пачала праверку па скаргах на АТ «Мінск—Лада» адносна продажу аўтамабіляў; працуе з калектывамі, якія прыватызуюць свае прадпрыемствы...

## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

### ПАМІРАЦЬ ЛЕПШ НЕ Ў МАСКВЕ

На разгляд ўрада Масквы прапанаваны прэйскурант новых цэн на паслугі пахавання. Цэны на прадметы рытуалу, на аўтатранспартныя паслугі і на добраўпарадкаванне магілак будуць свабоднымі. Перавозка труны з целам нябожчыка ад дома да месца пахавання абыдзецца ў 890 рублёў, а сама труна — ад 1.600 да 2 тысяч. Капанне магілы зімой будзе каштаваць 600, а летам —300 рублёў.

### «ЗАЙЦЫ», ЯДНАЙЦЕСЯ!

**Білет на гарадскі транспарт у Тальяці каштуе адзін рубель, штраф — 30, таму мясцовыя школьнікі вырашылі стварыць таварыства «зайцоў». Штомесячны ўзнос —1 рубель. Калі цяпер нехта з безбілетнікаў нарываецца на кантралёра, то расходы на штраф бяруцца з ўзносаў у таварыства.**

### БАГАТЫЯ І БЕДНЫЯ

23 працэнты жыхароў планеты, у асноўным грамадзяне багатых краін атрымліваюць 85 працэнтаў усіх даходаў. У той жа час штодзённы даход 1 мільярда чалавек не перавышае 1 долара. Бездань паміж багатымі і беднымі працягвае паглыбляцца. Гэтыя даныя ААН былі абвешчаны на экалагічным форуме ў Бразіліі.

### ПЛЁН КАНВЕРСІІ

**З канвеера Львоўскага танкарамонтнага завода пачалі сыходзіць гарадскія пасажырскія аўтобусы маркі «ЛІАЗ». Практычна ўсе яны будуць размяркоўвацца па тэрыторыі Украіны.**

### ТАМУ ШТО БЕЗ ВАДЫ

У Адэсе больш не здымаюць кіно. Цэх апрацоўкі плёнкі камбіната «Адэсафільм» закрыты з-за дэфіцыту вады. Калі адкрыецца — невядома.

### РАСІЙСКІ ТАЙСАН

**У маскоўскай гасцініцы «Украіна» следчыя Маскоўскага крымінальнага вышуку арыштавалі... абсалютнага чэмпіёна Еўропы па каратэ махачкалінца Магамеда Ідрысава. Магамед стаў першым расійскім Тайсанам. Падобна свайму амерыканскаму «калегу» па зубаскрышальнаму майстэрству, ён абвінавачваецца ў згвалтаванні.**

## КВАТЭРА ЗА МІЛЬЁНЫ «ДРАЎЛЯНЫХ» ЦІ ТЫСЯЧЫ ДОЛАРАЎ

**Масква працягвае здзіўляць. Хоць бы тым, што «чорны» рынак жылля сёння набывае цывілізаваныя рысы. Цяпер ужо не даводзіцца мець справу з няголеным маклерам няпэўнага выгляду, які, адвёўшы вас за вугал, шэптам расказваў пра наяўныя варыянты.**

**Газеты змяшчаюць шмат аб'яў: «Прадаю кватэру». Куплю-продаж жылля праводзяць многія фірмы.**

Але ці прыбытковая гэта справа — купля-продаж жылля? Аказваецца, не вельмі. Цікава, што, нягледзячы на жыллёвы дэфіцыт, у Маскве прапановы апярэджваюць попыт. Цэны? Ад 15 да 50 тысяч долараў — і вы становіцеся ўладальнікам адна-трохпакаёвай кватэры. Прычым яе кошт залежыць ад гаспадара. Адзін просіць за 19 метраў на апошнім паверсе тры мільёны рублёў, другі — за добрую трохпакаёвую кватэру з аксамітавымі шпалерамі і шыкоўнай мэбляй — 50 тысяч долараў.

Цэны залежаць ад раёна. За трохпакаёвую каля станцыі метро «Новакузнецкая» хочуць 110 тысяч долараў, а за аднапакаёвую ў «Навагірэеве» — ужо 25 тысяч.

Ці многія здаюць кватэры ў наём? Тут таксама прапаноў больш, чым жадаючых зняць. Аднапакаёвая ідзе за 4—6 тысяч у месяц, двухпакаёвая — за 7—8 тысяч, а за трохпакаёвую просяць 100 тысяч і вышэй. У валюце цэны таксама плаваючыя — ад 10 да 500 долараў.

Каму вельмі неахвотна здаюць кватэры? Каўказцам, ні за якую цану, ні пры якіх варыянтах — гэту ўмову ўсе гаспадары ставяць адразу.

Вельмі высока каціруюцца чужаземцы. Па-першае, валюта, па-другое, з іх дапамогай, мабыць, разлічваюць паехаць за мяжу.

Тым не менш шансы займець дах над галавой ёсць ва ўсіх. Але толькі калі вы ўладальнік эннай сумы «зялёненькіх» ці хоць бы дастатковай колькасці «драўляных»...

## ДРУГОЕ ЖЫЦЦЁ «МАРЛІ»

ГОМЕЛЬ. Медсанчастка ВА «Гомсельмаш» часткова перайшла на паўторнае выкарыстанне некаторых... перавязачных матэрыялаў. І звязана гэта, вядома, з іх катастрафічным недахватам. Калі летась санчастка атрымлівала 1.000 метраў марлі ў тыдзень, то зараз — толькі 300. І гэта пры тым, што стацыянар налічвае 240 ложкаў хірургічнага профілю. У год тут праводзіцца каля трох тысяч аперацый, часам вельмі складаных, якія патрабуюць вялікай колькасці перавязачнага матэрыялу. Вось і паўстала пытанне: ці то закрываць планавую хірургію, бо няма з чым працаваць, ці то шукаць іншае выйсце. У рэшце рэшт вырашылі частку перавязачных матэрыялаў пасля спецыяльнай апрацоўкі выкарыстоўваць паўторна. І тым самым, без заключэння гарадскога цэнтра па эпідэміялогіі і сангігіене, узялі на сябе адказнасць. Паўторнае выкарыстанне марлі дае штотыднёва эканомію ў 50—80 метраў. Праўда, пакуль што такая марля выкарыстоўваецца толькі ў апёкавым аддзяленні і гнойных перавязачных. Але хто можа паручыцца, што падобная мера заўтра не спатрэбіцца і ў планавай хірургіі? Выхад, вядома, не з самых лепшых, але ж хворыя чакаць не будуць. Віды на перспектыву даволі размытыя.

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

## С. Шушкевічу ў Хельсінкі будзе складаней, чым іншым палітыкам

**Другая сустрэча кіраўнікоў дзяржаў—удзельніц Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе пачалася 9 ліпеня. Да гэтага часу ўсе дзяржавы НБСЕ павінны былі ратыфікаваць Дагавор аб звычайных узброеных сілах у Еўропе (ЗУСЕ). Падобна, што Беларусь будзе адзінай краінай, якая не выканала гэтага патрабавання.**

Пытанне аб ратыфікацыі Дагавора аб ЗУСЕ стаяла на парадку дня 9-й чарговай сесіі ВС у канцы красавіка. Аднак парламент так і не разглядаў гэтага пытання, паколькі да таго часу краінамі СНД яшчэ не было парафіравана Пагадненне аб прынцыпах і парадку прымянення Дагавора аб ЗУСЕ і пратаколы да яго. Пасля ташкенцкай сустрэчы ўжо нічога не перашкаджала парламенту Беларусі ратыфікаваць гэты дагавор. Аднак чарговую сесію ВС запланавана склікаць толькі ў лістападзе. Пытанне аб скліканні нечарговай сесіі парламента разглядалася на Прэзідыуме ВС. Напярэдадні пасяджэння С. Шушкевіч заявіў журналістам, што не будзе выкарыстоўваць сваё канстытуцыйнае права Старшыні ВС для склікання нечарговай сесіі, паколькі не лічыць сітуацыю экстрэмальнай. «Гэта пытанне павінен вырашыць Прэзідыум», — сказаў спікер. Аднак рабочы орган парламента рашэння аб скліканні нечарговай сесіі не прыняў. Замест гэтага Прэзідыум ВС прыняў пастанову, у якой адобрыў Дагавор аб звычайных узброеных сілах у Еўропе з пратаколамі да яго, які быў падпісаны ў Парыжы 19 лістапада 1990 года. Адначасова адобрана Пагадненне аб прынцыпах і парадку прымянення Дагавора аб ЗУСЕ і пратаколы да яго (пагадненне было падпісана ў Ташкенце 15 мая 1991 года). Пытанне аб ратыфікацыі павінна быць разгледжана на чарговай сесіі парламента. Ад імя Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі ўсім дзяржавам—удзельніцам Дагавора аб ЗУСЕ былі накіраваны пісьмы аб гатоўнасці рэспублікі выконваць абавязацельствы, што вынікаюць з гэтага дагавора, з моманту ўступлення яго ў сілу.

На прэс-канферэнцыі 26 чэрвеня Станіслаў Шушкевіч растлумачыў прычыну нясклікання нечарговай сесіі парламента тым, што з 15 чэрвеня дэпутаты знаходзяцца ў адпачынку і сабраць кворум проста не ўдасца. Паводле яго слоў, у выніку кансультацый з краінай-дэпазітарыем дасягнута дамоўленасць лічыць пастанову Прэзідыума ВС аб адабрэнні дагавора ратыфікацыйнай граматай.

Аднак ёсць усе падставы сумнявацца ў падобнай трактоўцы сітуацыі. Сапраўдная прычына нясклікання нечарговай сесіі і заключаецца, на маю думку, у тым, што посткамуністычная большасць у Прэзідыуме апасаецца, што апазіцыя БНФ запатрабуе на пасяджэнні ВС назначыць дату рэферэндуму аб датэрміновых выбарах у парламент восенню гэтага года. Нагадаю, што ініцыятыўная група Народнага фронта сабрала 440 тысяч подпісаў з патрабаваннем правесці плебісцыт па гэтаму пытанню, і па закону парламент цяпер абавязаны на сесіі назначыць дату рэферэндуму. Наменклатура выбрала тактыку зацягвання гэтага працэсу да восені, калі правядзенне рэферэндуму страціць сэнс, паколькі ў фармулёўку пытання ўключана дата датэрміновых выбараў — восень 1992 года.

Спробы ж выдаць пастанову Прэзідыума ВС за ратыфікацыйную грамату з прававога пункту гледжання не вытрымліваюць ніякай крытыкі. А калі хоць адна краіна Еўропы не ратыфікуе дагавор аб ЗУСЕ, дык ён не ўступіць у сілу.

Заходнія краіны праявілі ўжо занепакоенасць і нават нервовасць наконт сітуацыі ў Беларусі. У Мінску пабываў намеснік памочніка дзяржсакратара ЗША Рычард Казларыча, які «абмяркоўваў» з міністрам замежных спраў П. Краўчанкам «пытанні, звязаныя з парадкам ратыфікацыі дагавораў ваенна-стратэгічнага характару», у тым ліку і Дагавора аб ЗУСЕ. З П. Краўчанкам сустрэліся таксама паслы краін НАТО ў Мінску, якія перадалі яму «калектыўны дакумент гэтай ваенна-палітычнай арганізацыі, звязаны з парадкам ратыфікацыі Дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе» (цытаты з афіцыяльнага паведамлення Міністэрства замежных спраў).

Станіславу Шушкевічу будзе нялёгка растлумачыць кіраўнікам дзяржаў—удзельніц НБСЕ на сустрэчы ў вярхах у Хельсінкі 9—11 ліпеня, чаму Беларусь нават не спрабавала склікаць парламент для своечасовай ратыфікацыі Дагавора аб ЗУСЕ.

**Ігар СІНЯКЕВІЧ,**
**карэспандэнт «Независимой газеты» для «Звязды».**

**АД РЭДАКЦЫІ: Думкі, выказаныя аўтарам артыкула, далёка не бясспрэчныя, дыскусійныя, і ў бліжэйшых нумарах «Звязда» мяркуе вярнуцца да ўсебаковага абмеркавання гэтых пытанняў.**

## Беларуская мінуўшчына: яе трэба ведаць!

**Сярод шматлікіх выданняў перыёдыкі, якой сёння, здаецца, нікога не здзівіш, з'явілася яшчэ адно — «Беларуская мінуўшчына». Наш карэспандэнт гутарыць з галоўным рэдактарам часопіса, доктарам гістарычных навук Мікалаем КУЗНЯЦОВЫМ.**

— Зазначу адразу: наша выданне бярэ кірунак на аб'ектыўнае асвятленне айчыннай гісторыі. Будзем рабіць усё, каб усё ж знайсці адказ на пытанне: хто мы і адкуль, з-за чаго пакутуем, радуемся, дзе і «дзякуючы» каму і чаму зрабілі не так, як таго патрабавалі сітуацыя, абставіны, умовы...

**— Мікалай Васільевіч, часопіс выходзіць у надзвычай складаны час, калі іншым, ужо са сваёй гісторыяй перыядычным выданням жывецца ой як нялёгка... Сёння многія з іх знаходзяцца ў ненажэрнай пастцы эканамічных цяжкасцей, абумоўленых грабежніцкімі цэнамі на паліграфічныя паслугі, паперу, паштовыя і іншыя выдаткі. Як жа вы адважыліся на такое, з чаго, так бы мовіць, зыходзілі?**

— Грамадазнаўцы, і найперш — гісторыкі даўно мараць аб сваім часопісе. На навуковых канферэнцыях, сімпозіумах, сходах, у прысутнасці высокапастаўленых асоб мы даволі часта ўзнімалі гэта пытанне. Хацелася і раней грунтоўна і праўдзіва гаварыць аб айчыннай спадчыне, прадастаўляць шырокаму колу чытачоў вынікі нашых даследаванняў. Не атрымлівалася... Яшчэ ў 1985 годзе гісторыкі памкнуліся стварыць сваё таварыства, абралі прадстаўнічы орган... Мы спадзяваліся, што рэспубліканскай суполцы ўдасца пераканаць кіраўніцтва ЦК КПБ у неабходнасці выдання па гісторыі. Але дзе там: адмовілі, нават не абгрунтаваўшы сваё «высокае» рашэнне.

**— А вось калісьці было інакш...**

— Было. Шмат дзесяцігоддзяў назад у Беларусі выходзіла значная колькасць зборнікаў, спецыяльных выданняў, у якіх гісторыкі, археолагі, этнографы друкавалі цікавыя і патрэбныя ўсім даследаванні. У савецкі ж час усё ўскладнілася... А ўсё таму, што ідэалагічнае кіраўніцтва ЦК КПБ баялася, што гісторыкі паставяць такія вострыя і столькі шмат пытанняў, запатрабуюць іх рашэння, што хочаш не хочаш, а давядзецца крута пераглядаць многае з таго, што было дагматызавана, «надзейна» прыціснута прэсам сяк-так абгрунтаванай маны. Пераглядаць, вядома ж, не хацелася, бо для гэтага трэба было мяняць літаральна ўсё — у корані. Лічылі — лепш адмовіць.

**— Такім чынам, цярпела і сама навука, і праўда...**

— Так, хваробу, якую грамадазнаўцы маглі б ускрыць, заганялі ў глыбіню. Яна пусціла глыбокія карані і стала сапраўднай пухлінай, што «з'ела» ўвесь арганізм, кінуўшы пры гэтым у небыццё і тых самых перастрахоўшчыкаў ад ідэалогіі.

Гісторыкам, архівістам, этнографам, мовазнаўцам ёсць што сказаць грамадству, ёсць чым дапамагчы ў вызначэнні шляхоў наперад, у пераадоленні сацыяльных і эканамічных складанасцей. Нездарма ж кажуць, што сучаснае—гэта забытае старое... Наша ж старое, мінуўшчына не забытая, яна проста прытаптана, зняважана. Яе трэба адрадзіць!

**— Хто ж з'яўляецца заснавальнікамі часопіса «Беларуская мінуўшчына»?**

— Гэта Галоўархіў рэспублікі, Беларускі філіял творчага аб'яднання міжнароднага фонду міласэрнасці і здароўя, Беларускі фонд славянскай культуры і пісьменства. Яны і аб'ядналі свае небагатыя матэрыяльныя, затое надзвычай вялікія інтэлектуальныя, духоўныя скарбы, каб часопіс стаў рэальнасцю.

**— Раскажыце хоць бы коратка пра асноўныя накірункі яго.**

— Ужо сама назва — «Беларуская мінуўшчына» дае ў пэўнай меры адказ на пытанне. Наша асноўная задача — паказ гісторыі Беларусі ва ўсёй яе шматколернасці. Тут і нашы славянскія карані, і існаванне Беларусі ў складзе Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі... Галоўнае месца будзем аддаваць людзям, тым, хто бараніў край, памнажаў яго багацце, шанаваў лепшыя культурныя і духоўныя традыцыі. Раскажам пра дзейнасць рэлігійных канфесій, жыццё беларусаў у эміграцыі, пра лепшыя традыцыі, звычаі, легенды, наогул пра тое, як працавалі, жылі, адзяваліся, аб чым марылі нашы продкі.

Аснову часопіса складуць матэрыялы архіваў і сховішчаў, летапісы і хронікі — інакш кажучы, неаспрэчныя дакументы часу.

**— Відаць, на шляху да ажыццяўлення планаў шмат перашкод...**

— Так. Па падліках эканамістаў «Беларускага Дома друку», нам толькі на друкарскія паслугі трэба на адзін нумар 150—170 тысяч рублёў. Выйсце бачыцца ў тым, каб самім вучыцца зарабляць грошы. Часопіс мае выдавецкія правы, мы збіраемся выдаваць гістарычную і мастацкую літаратуру, дадатак да часопіса. У межах закона зоймемся і камерцыйнай дзейнасцю. Ну, і, вядома ж, трэба зацікавіць падпісчыкаў «Беларускай мінуўшчыны». Паведамляю: грошы на падпіску з дакладным хатнім адрасам можна пералічыць на наш рахунак 200609438, код 741 у Маскоўскім аддзяленні Мінскбізнесбанка, МФО 153001. Кошт аднаго нумара — 15 рублёў. Да канца года выпусцім два нумары часопіса.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

## «ІНТЭГРАЛ» ГУЛЯЕ, КАМВОЛЬНЫ ЧЫХВОСЦІЦЬ УСІХ ЗАПАР...

У мінскім аб'яднанні «Інтэграл» безвынікова шукаць каго-небудзь у гэтыя дні на прадпрыемстве. Тэлефоны маўчаць, адклікнуліся толькі ў аддзеле забеспячэння ды дзяжурны па прадпрыемству. Адказ апошняга быў лаканічным: усе пайшлі — у адпачынак. Вымушаны. З панядзелка да наступнага панядзелка. Няма сыравіны, матэрыялаў, камплектуючых. Не прывыкаць — гулялі і раней. Па тры дні, па тыдню, а ў маі, разам са святамі, — увогуле 15 дзён. Аплата — па тарыфу першага разраду.

На Мінскім камвольным, які напружваўся, але да апошняга часу неяк асільваў сітуацыю, таксама гуляюць. Дакладней — працуюць напаўсілы — адна змена. «Новы графік» — з 3 ліпеня. Няма сыравіны, не хапае грошай, прычым іх не вяртаюць за раней адгружаную прадукцыю. Пры гэтым цяпер за кілаграм воўны просяць да 800—900 рублёў, што можа выліцца ў 1.000 рублёў за метр тканіны. Напалавіну знізіўся заработак. Пазаўчора на камбінаце адбылася прафсаюзная канферэнцыя, прысвечаная выкананню працоўнага пагаднення: чыхвосцілі ўсіх падрад.

На камбінаце так ставяць пытанне: мы з'ўляемся дзяржаўным прадпрыемствам, але, выходзіць, нікому не патрэбны? Няхай аддаюць прадпрыемства нам, можа, прадаліся б якому капіталісту, калі дзяржава недзеяздольная...

Як кажуць, рэзон у гэтых словах ёсць.

**Кар. «Звязды».**

(Больш падрабязна аб цяперашняй сітуацыі на прадпрыемствах рэспублікі раскажам у бліжэйшыя дні).

## ТОЛЬКІ ВЫШАК НЕ ХАПАЕ?

ЖОДЗІНА. З мэтай выяўлення страт рабочага часу абвешчаны загад дырэктара Беларускага аўтамабільнага завода «Аб арганізацыі дзяжурства на тэрыторыі завода». Загад абавязвае начальнікаў цэхаў і аддзелаў прапрацаваць пытанні перамяшчэння сваіх работнікаў на тэрыторыі завода з мэтай скарачэння страт рабочага часу. Дзяжурным па заводу дазволена затрымліваць любога работніка на яго тэрыторыі з мэтай выяўлення прычын хаджэння, а з 17 гадзін наогул забаронены пропуск на завод. Як сумна жартуюць рабочыя, засталося толькі паставіць па вуглах вартавыя вышкі і абцягнуць тэрыторыю калючым дротам.

З другога боку, на Захадзе такой праблемы няма наогул: там на любым прадпрыемстве кожная мінута аддаецца рабоце.

## АЗАЛАЦІЛІСЯ

ВІЦЕБСК. Азалаціліся днямі літаральна за некалькі гадзін на вуліцы Кірава дзве віцебскія сяброўкі-махляркі. Яны «навешалі лапшы» на вушы дзевяцікласніцы М., якая прынесла ім з дому на «пробу» рэчы з каштоўных металаў: тры пярсцёнкі з брыльянтамі, пярсцёнак з фіянітам, гры пары залатых завушніц, два залатыя ланцужкі з кулонамі, залаты наручны гадзіннік (Швейцарыя).

Нагрузіўшыся, дзяўчаты зніклі, пакінуўшы ні з чым аблапошаную школьніцу, якая кінулася за дапамогай у міліцыю.

## ХРОНІКА СУІЦЫДУ

У сваім хляве скончыў жыццё самагубствам жыхар Давыд-Гарадка І. Каляда.

**У мясцовую міліцыю паступіла паведамленне аб тым, што ў вёсцы Альшаны Столінскага раёна павесіўся жыхар гэтай вёскі М. Казак.**

Па ўласнай волі рассталася з жыццём юная жыхарка Наваельні Ч. Прыйшоўшы дадому з работы, бацька з жахам убачыў дачку-васьмікласніцу ў пятлі.

**На канюшні вёскі Яхноўшчына Дзятлаўскага раёна павесіўся дваццацісямігадовы жыхар гэтай вёскі К.—інвалід першай групы.**

## НА ШЧАСЦЕ, АЎТАМАТ НЕ «ЗАГАВАРЫЎ»

**ГРОДНА. (Б. Пракопчык). Крадзяжы зброі адбываюцца, на жаль, не толькі ў гарачых кропках СНД — дакацілася гэта ліха і да нас. У Гродна нядаўняй ноччу на тэрыторыі вайсковай часці было ўчынена нападзенне на вартавога, які ахоўваў парк баявой тэхнікі. Злачынцы авалодалі аўтаматам Калашнікава, двума магазінамі з патронамі і штык-нажом. Пасля гэтага збеглі. Вартавы быў змешчаны ў бальніцу.**

Менш двух сутак спатрэбілася групе захопу пад кіраўніцтвам намесніка начальніка аддзела крымінальнага вышуку Кастрычніцкага раёна абласнога цэнтра С. Арабея, каб затрымаць злачынцаў — дызерціраў з гэтай жа часці дагестанца Ш. і нядаўна дэмабілізаванага М. з Чэчні. Пры правядзенні аперацыі вызначыліся намеснік начальніка аддзела ўнутраных спраў раёна М. Спіцын, намеснік начальніка аддзялення міліцыі мікрараёна «Прынёманскі» Д. Барэйка і оперупаўнаважаны аддзела крымінальнага вышуку Кастрычніцкага РАУС Э. Сайчук.

Аўтамат, на шчасце, так і не «загаварыў».

## Стрыжка ў дамашнім выкананні

**Паслугі цырульніка каштуюць усё даражэй. Між тым навучыцца стрыгчы хоць і даволі складана, але магчыма. Можа, паспрабуеце? Тады вам дапамогуць парады вопытнага цырульніка В. Ярцава, якія змясціў часопіс «Наука и жизнь».**

З чаго пачаць? Паспрабуйце асвоіць адну са шматлікіх тэхналогій стрыжкі. Для пачатку зусім не складаную.

Усю масу чыстых мокрых валасоў выразнымі праборамі падзяліце на 5 зон: 1 — франтальна-цемянная (верхняя), 2 — левая скронева-бакавая, 3 — правая скронева-бакавая, 4 — левая патылічная, 5 — правая патылічная. Наглядна падзел на зоны паказаны на малюнках 1 і 2.

Па лініі росту валасоў паўсюдна выпусціце пасмы шырынёй 1 см. Яны патрэбны, каб намеціць знешні контур бакавых пасмаў, грыўкі і даўжыню валасоў на шыі, г. зн. для выканання акантоўкі.

Прабор, што аддзяляе патылічную зону (4,5), праходзіць дугападобнай лініяй цераз макушку ад вуха да вуха. Вертыкальным прaборам падзяліце патылічную зону напалам. Кожную зону, як толькі яе аддзеліце, замацоўвайце заціскамі.

Потым правядзіце два паралельныя праборы, што супадаюць з лініямі выгіну броваў. Паміж імі — франтальна - цемянная зона (1).

І нарэшце аддзяліце скронева-бакавыя зоны — правую і левую (2,3). Для гэтага адступіце 1 см ад лініі заканчэння росту валасоў над вухам і правядзіце прабор, паралельны прабору верхняй франтальна-цемяннай зоны.

Стрыгчы пачынайце са скронева-бакавой зоны. Пасму шырынёй 1 см, якую выпусцілі над вухам, расчашыце ўніз і зрабіце зрэз,

425

зыходзячы з выбранай вамі даўжыні (па лініі разрэзу вачэй ці па лініі кончыка носа). Ад гэтай пасмы будзе ісці ўся стрыжка (гл. малюнак 1).

Потым, выбраўшы патрэбную даўжыню, зрэжце пасму на шыі па прамой лініі (гл. малюнак 2).

Думаем, вы зразумелі логіку далейшых дзеянняў. Паслядоўнасць падкажуць малюнкі.



426

РЫБАЦКІЯ ЗГАДКІ

## Як разблытаць лёску?

Горш няма справы, чым разблытваць «бараду» на лёсцы. Аблегчыць гэту задачу дапаможа круглы чаўнок. Трэба ўзяць прамавугольную паласу з тонкага алюмінію, бляхі, латуні даўжынёй 20—30 см са зрэзанымі на конус канцамі, сагнуць яго трубачкай з незамкнутай падоўжнай шчылінай. Вяршыню конусу трэба прарэзаць уздоўж, але неглыбока.

Конусападобны круглы чаўнок лёгка працягваецца праз петлі лёскі, якія зручна рассоўваць шылам ці цвіком.

## Карысныя парады

✱ Неабавязкова мець пад рукой ракалоўку для таго, каб лавіць ракаў як з берага, так і з лодкі. Дастаткова ўзяць старую капронавую панчоху, напхаць яе прынадай (ракушачнае мяса, кавалкі рыбы), прывязаць панчоху да шнура і апусціць на дно. Дабіраючыся да прынады, ракі кіпцюрамі лапак і выступамі на панцыры трывала зачапляюцца за тонкія ніткі капрону. Не спяшаючыся выцягвайце «прыладу» — ракі вашы.

✱ Калі вы пакінулі кручкі ў сырой кішэні рукзака, і яны пакрыліся ржавым налётам, не бяда — у зрэзаную палавінку цыбуліны ўтыркніце ржавыя кручкі да самага колца на цаўе. Праз суткі налёт знікне.

✱ Калі вы не паспелі злавіць малявак — не бяда. Салёная цюлька і дробная кілька, папярэдне вымачаныя ў вадзе і падсушаныя каля газавай пліты, — якая-ніякая замена жывых малявак.

## Паплаўкі на ўсе сезоны

Самы хадавы і ўніверсальны паплавок для лоўлі ляшча і іншых буйных рыб можна зрабіць з пяра гусі ці качкі. Для лоўлі дробнай ці сярэдняй рыбы — з пер'я сарок і варон.

Розныя віды і тыпы паплаўкоў для любога сезона можна зрабіць са сцябла дзядоўніку. Нарыхтоўваць гэтую сыравіну лепш увосень. Гатовы паплавок трэба пакрыць зверху тонкім слоем клею БФ-2 ці «Момантам».

Расфарбоўваецца паплавок таксама на свой густ. Але трэба памятаць галоўнае — верхавінка павінна быць добра прыкметнай.

427

## Каб лодка не «старэла»

Надзіманыя гумавыя лодкі вызначаюцца лёгкасцю, бяспекай, зручнасцю. Але час робіць сваю справу. Чым горш абыходзіцца гаспадар са сваёй лодкай, тым хутчэй яна псуецца.

Як паказвае практыка, многія рыбаловы шукаюць прычыну ў няспраўнасці клапана, калі лодка пачынае з часам прапускаць паветра. Але прычына, аказваецца, зусім не ў ім. Прарызіненая тканіна, з якой зроблена лодка, сама па сабе пачынае прапускаць паветра. Аднак можна прадоўжыць тэрмін службы лодкі.

Трэба ўзяць рызінавы клей не густой кансістэнцыі і сярэдняй велічыні пэндзлік. Потым надзьмуць лодку і прамыць анучкай з цёплым растворам пральнага парашку, апаласнуць паверхню чыстай вадой, старанна працерці, прасушыць і зноў працерці чыстай і сухой мяккай тканінай. Клей тонкім слоем наносіцца на паверхню, асабліва старанна неабходна «прасмаліць» швы.

Праз два-тры дні, калі клей цалкам высахне, паветра з лодкі трэба спусціць, а потым зноў яе надзьмуць, пакрыўшы корпус другім слоем клею.

## Некалькі парад адпускніку

Непрыемны пах у чамадане знікне, калі працерці яго знутры воцатам і прасушыць на сонцы.

А каб адзенне ў ім пахла прыемна, пакладзіце ў яго араматызаваныя насоўкі—некалькі кропель духоў у ваду, у якой іх палошчаце.

**Чамадан сабралі, а вось што рабіць з хатнімі кветкамі?** Спосабаў механічнага іх паліву шмат. Вось некалькі самых простых.

Зрабіўшы сваім гадаванцам слабы душ у ваннай, пакіньце іх там у вадзе. Дзверы ваннага пакоя пры гэтым павінны быць адчынены. Два-тры тыдні кветкі вытрымаюць і без дастатковага асвятлення. А лепш так. Перад самым ад'ездам пастаўце гаршкі з кветкамі ў ванну з вадой, якая павінна пакрываць іх краі. Хвілін праз 40 загарніце гаршкі ў поліэтыленавую плёнку або змясціце ў мяшкі. Краі плёнкі ці пакетаў змацуйце канцылярскімі сашчэпкамі, каб менш выпаралася вільгаць.

428

